Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

У гэтым нумары 6 страніц.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 11 Вільня, Чацьвер, 26-га жніуня 1926 г. Год I.

## На школьны фронт!

Надыходзе восень, а з ёй разам узьнімаецца перад намі нашае старое й мо' найбольш балючае пытаньне: *дзе і як мы будзем сёлета вучыць нашых дзетак?*

Хаця ўжо трэці год ідзе ад часу выданьня Соймам так-званых „языковых законаў“ з 31 ліпня 1924 году, — законы гэныя адносна да беларускае школы асталіся мёртвай літэрай. Ня гледзячы на тое, што першы школьны плебісцыт, які адбыўся на падставе гэтых законаў, даў больш 15.000 дэклярацыяў бацькоў за родную беларускую школу, — ніводная *ўрадавая* школа з беларускай выкладавай мовай у нас дагэтул не адчынена. І можна сьмела сказаць, што сучасны ўрад п. п. Бартля-Пілсудскага, які ў сваіх часопісях так соладка нам сьпявае, ня зьбіраецца, як і яго папярэднікі, спаўняць тое, да чаго яго *абязываюць* істнуючыя ў Польшчы законы. Бо-ж дзеля ладжаньня школ патрэбны перадусім вучыцялі; але ўрад, „бракуючы“ ўсіх гадунцоў расейскіх сэмінарыяў і дапаўняючых беларускіх вучыцельскіх курсаў, трымаючы і далей у этнаграфічнай Польшчы выкваліфікаваных „на польскі лад“ б. курсантаў кракаўскіх курсаў, сарваных у свой час з беларускіх школ, — ня думае навет аб адкрыцьці ці то курсаў, ці беларускае вучыцельскае сэмінары, каб забясьпечыць беларускія школы настаўнікамі. А такіх школ дзяржава — згодна з яе законамі—*мусіла* ўжо летась адчыніць нешта звыш 400, як таго вымагалі вынікі школьнага плебісцыту!...

Дык што-ж будзе? Ці і далей дзеці нашы будуць духова калечыцца ў чужой ім польскай школе, як за панаваньня маскоўскіх цароў калечыліся ў расейскай?!

Гэта залежыць у значнай меры *ад нас самых*. Ня хоча ўрад даць нам тое, што нам па закону належыцца, — дык не маўчаць пакорна мы павінны, а голасна крычаць і дахо-дзіць свайго! Мы павінны перадусім *нанова распачаць масавую падачу дэкляраціяў за беларускую школу*.

У гэтым нумары мы падаем падробную інструкцыю, як дамагацца беларускае школы. Хай кожны беларус уважна яе прачытае і зробіць усё належнае. Хай кожная беларуская грамадзкая арганізацыя, кожын партыйны гурток глядзіць на гэту справу, як на *баявую задачу сяньняшняга дня*. І някай усе жывыя сілы нашае вёскі, значна дасьпеўшыя за апошнія два гады і шмат зрабіўшыя на шляху арганізацыі народных масаў, выявяць сваю дасьпеласьць і арганізованасьць, і сёлета вёска дасьць ужо не 15 тысяч дэкляраcыяў, а ў некалькі разоў балей!

Але-ж паводле закону з 31 ліпня 1924 году на падставе пададзеных *сёлета* — за 31 сьнежня — дэкляраcыяў урад *будзе абязаны* адчыняць беларускія школы на дзяржаўны кошт толькі з восені *наступнага* 1927 году. Дык як-жа мае быць сёлета? Ці-ж так і будзем ждаць гэнага наступнага году, спадзяючыся, што ўрад „маральнае санацыі“ ўрэшце надумаецца цераз год споўніць тое, што павінен быў-бы зрабіць ужо цяпер—неадкладаючы—на падставе леташніх дэкляраcыяў?!

Не! Ждаць мы ня можам і ня маем права, бо дзяцей вучыць трэба, бо кожын год навукі ў чужацкай школе, ці то бадзяньня бяз ніякае навукі—гэта страшэнная, непапраўная крыўда дзіцяці! І мы сяньня, не адкладаючы, мусім узяцца за *ладжаньне сваіх уласных—прыватных школ**), у якіх і вучыць дзетак у роднай мове. Гэта—*другая баявая задача*, якая стаіць перадусімі нашымі дзячамі і арганізацыямі на вёсцы.

Дык усе — да працы! Усе — на *адзіны школьны фронт*! І перамога мусіць быць наша!

*) У-ва ўсіх справах, датычных адчыняньня прыватных беларускіх школ, зварачайцеся да **Галоўнае Управы** (былай Цэнтральнай Школьнай Рады) **Т-ва Беларускае Школы ў Вільні** (Віленская 12).

## ППС—правіца за работай.

Як ведама, партыя ППС раскалолася. Побач з старой, істнуе цяпер другая арганізацыя—ППС—лявіца, якая стаіць на клясавым груньце. ППС—лявіца паволі, але бязупынна, разваліваe старую партыю ППС, адбірае масы з-пад уплыву правадыроў, здрадзіўшых работніцкія інтарэсы.

Ясна, што розныя паны Недзялкоўскія, Морачэўскія і іншыя, якія дагэтуль гаспадарылі ў партыі так, як хацелі, стараюцца ўсялякімі спосабамі перашкодзіць разьвіцьцю і росту лявіцы. Іхная барацьба, аднак,—гэта не палітычная барацьба. Яны ня маюць адвагі выступіць у абароне сваей здрадніцкай палітыкі адкрыта. Як і заўсёды, ашуківаюць яны масы рэвалюцыйнымі фразамі, а на сваіх старых таварышоў насылаюць паціху дэфэнзыву, робяць даносы і г. д.

Толькі ППС—правіца, якая ўжо ня раз абрызгала сябе крывёй работнікаў, не хацеўшых іcьці пад камандай яе,—здолна на гэтакія подласьці.

У № 7 „Robociarze“—органу ППС—лявіцы знаходзім некалькі тыпічных фактаў:

„Павятовы Камітэт ППС—лявіцы ў Жывцу склікаў на чацьвер, 5 г. м., сходзіны сяброў, на каторых меў быць выбраны прэзыдыум. Пранюхаўшы гэта нейкім чынам, зьявіліся ў памешканьне кіраўнікі мясцовай арганізацыі ППС—правіцы ды, агледзіўшы сходзіны, паведамілі паліцыю „аб тайным, бальшавіцкім паседжаньні“. Некалькі чалавек з іх асталась на сходзінах і на ўвагу старшыні, што яны ня маюць тут што рабіць, адказалі: „за хвіліну прыйдуць сюды іншыя, якія зробяць з вамі парадак“. І запраўды: праз некалькі хвілін уляцела з насаджанымі штыхамі паліцыя, равучы „Рукі ўверх“. Зачынілі памяшчэньне, зрабілі рэвізію, сканфіскавалі „Robociarze“. Тых работнікаў, якія яшчэ толькі сходзіліся, — ў салю ня пусьцілі“.

Паседжаньне трэба было адлажыць.

Або другі факт: „Двое сяброў работніцкага культурна—асьветнага таварыства“ „Siła“ ў Мікутовіцах (Сілезія) — былі пакараны па 8 зл. за расклеіваньне абвестак аб вечы пасла Сохацкага. Сэкрэтар ППС—правіцы праз некалькі дзён выдаў спэцыяльную адозву да работніцкай моладзі, у якой фальшыва падае, што засуджаны яны на 6 месяцаў вастрогу, і што былі ў партыі ППС—лявіцы. Адозва канчаецца славамі: „гэтакая доля чакае кожнага сябру ППС—лявіцы“. Зусім, як Паўлюкевіч пужае сяброў Грамады!...

Тое самае ў іншых мясцовасьцях. Страшаць работнікаў, што той, хто чытае „Robociarze“ — будзе мець дома рэвізію, а калі склічуць работнікі сход, дык паліцыя акружыць дом і ўсіх заарыштуе“.—Ну, чым не заява дэфэнзыўнага „Бел. Слова“?!

Гэтак працуе ППС—правіца. Ганьба ёй. Гэтую партыю трэба гнаць ад сябе, як заразу!

## Правакатары працуюць!

(Пісьмо з Стаўпецкага пав.).

Калі які небудзь злодзей, залезшы на становішча ўрадоўца, набівае свой кішэнь, то ён абавязкова мусіць удаваць вялікага патрыёта і разам з тым быць і правакатарам.

Робіцца гэта ўсё з мэтою, каб людзі і ўлада ня вельмі ўнікалі ў тыя справы, якія „пад шумок“ гэтакі злодзей абрабляе. Вельмі часта здараецца, што гэтакім спрытным „васпанам“ ўдаецца доўга абдурываць людзей.

Але часам бывае і так, што такая палітыка да дабра не даводзіць і спрытны чалавек „засыплецца“ так, што далей трымаць на службе яго ня можна і трэба засадзіць у вастрог, — і тады ўлада ставіць яго ў стан „zawieszenia“. Амаль такая справа здарылася з нашым ведамым патрыётам-правакатарам войтам Сьвержанскае гм. Абрыцкім, які цяпер „zawieszony“ за тую правакацыю, якую ён зрабіў з гр. Шкутко (аб ёй мы ўжо пісалі ў газэце).

Правакацыя не ўдалася. Абрыцкі, гмінны пісар Быліна і экзакутар Брычкоўскі знаходзяцца пад судовым сьледзтвам і па загаду суд. ўлады—ўсе асталіся ў „zaweszeniu“, папросту кажучы, староста мусіў разагнаць усю гэтую кампанію правакатараў. Астаўшыся бяз працы і маючы вольны час, Абрыцкі цяпер ва-ўсю хоча паказаць сваю спрытнасьць і здольнасьць да правакацыі. Ён стараецца, але мусіць дарма, адкрыць у Стаўпецкам пав. ніштo іншае, як цэлую комуністычную арганізацыю!

З гэтаю мэтаю лазіць па Стаўпецкіх кнігарнях, выпытываючы, ці не прапанаваў хто камуністычнае літэратуры, езьдзіць па вёсках, шукаючы таго, чаго няма і ня было і г. д.

Тыя людзі, на якіх ён мае „зуб“, баяцца навет, каб гэты правакатар не падківуў чаго, за што потым пацягнулі-бы да адказнасьці. Яму вельмі патрэбна каго небудзь утапіць, хаця-бы і правакацыйна, каб толькі даказаць начальству, які ён вялікі патрыёт. І робіцца ўсё гэта „на дурніцу“, каб адурыць уладу, якая-б, барані божа, не зравізавала, як сьлед, гмінныя справы, якія, як чуваць, знаходзяцца ў вельмі кепскім стане і за якія, як кажуць людзі нашае гміны, б. войту Абрыцкаму і К° трэба было-б даўно сядзець там, дзе сядзяць усе зладзеі, г. ё. ў вастроге...

Астаецца дзівавацца толькі аднаму: чаму гэта нашая ўлада ня бачыць таго, аб чым крычаць усе нашыя людзі і на што паказваюць пальцамі так, што, навет збоку гледзючы, робіцца брыдка і за гэтых гмінных дзеячоў, аб якіх навет абрыдзела пісаць у газэтах, і за самую ўладу?!

Напрыклад, усе людзі крычаць гвалт, што Засульскі войт Жаўнаркевіч „праглынуў“ пажарны інструмэнт, на які з людзей зьдзіралі грошы і праз адсутнасьць якога згарэла ўся вёска Засульле (гэтым летам гарэла 2 разы); усе крычаць аб тэй ганебнай справе, якая ў яго выйшла з Канадаю, калі Засульскі гмінны ўрад ашукаў тысячы людзей, пабраўшы ад іх грошы за запісь на выезд, якога ня было і ня будзе. Ня менш крычаць і ў Сьвержанскай гміне аб усіх тых крыўдах, зьдзеках над людзьмі і надужыцьцях, якія тварыліся ў гэтай гміне пад кіраўніцтвам войта Абрыцкага. Аднак-жа, як відаць, нікому да гэтага ніякага дзела няма: староста робіць від, што ўсе ў парадку; паліцыйная ўлада, палітычная і звычайная, якая бяз упынку лазіць па вёсках з сваім кіраўніком Дэсарвілем у пагоні за камунаю, арыштоўваючы і страшачы людзей, мусіць ня мае часу, каб добра прыглядзецца да гэтакіх патрыётаў, якія пад носам у ўсіх і сьмяючыся з усіх, абкрадаюць і скарб і добрых людзей.

**Сьвержанскі.**

## Асаблівая „банда“.

Выдаваны ў Варшаве орган пілсудчыкаў „Głos Prawdy“ падае вестку з Беластоку, што ў тамтэйшым акружным судзе разглядалася справа групы беларусаў—Язэпа Красько, Вольгі Сабец, Мікалая Улезлы, Піліпа Байкі, Несьцера Раўнейкі, Язэпа Раўнейкі, Піліпа Пекача, Яна Байкі, Базыля Шыпеля, Платона Руча і Андрэя Брутынава. Вінавацілі іх, як піша газэта, паводле 129 ст. К. К.—у процідзяржаўнай дзеяльнасьці ў Пружанах, Бельскага пав. „У Пружанах ладзіўся на 1-га мая с. г. замах, і ў сувязі з гэтым былі пазрубаны стаўбы з дзяржаўным гэрбам, вывешаны сьцягі з камуністычнымі надпісамі, раскідана літэратура і г. д. У ноч на 1-га мая замахоўцы азброеныя хадзілі ад хаты да хаты, забіраючы грошы і аружжа, тэрорызуючы насяленьне. 16 сяброў гэтае банды (?!) ўцяклі ў Радавыя Рэспублікі, а паліцыя заарыштавала 11 асоб, абвінавачаных у прыналежнасьці да гэтае банды. Суд усіх абвінавачаных прызнаў нявіннымі“.

Дык дзе-ж тут „замах“ і „банда“, — паны „маральныя санатары?! І чаму вы ня пішаце, што-ж сталася з запраўднымі праступнікамі, узьвёўшымі на бязьвінных людзей фальшывае абвіненьне?“.

# У Польшчы.

### Новы закон аб чужаземцах.

Апублікаваны новы закон аб чужаземцах, які ўваходзіць у сілу толькі ад 1 студня 1927 г. Зьмест яго, праўду кажучы, вельмі няясны, дык разабрацца ў ім зразу даволі цяжка.

Галоўная рыса новага закону—гэта тое, што ўсе пастановы ўладаў I і II інстанцыі (старостаў і ваяводаў) зьяўляюцца аканчальнымі, дык скардзіцца на іх далей няма каму.

Закон дае толькі агульныя ўказаньні, але да яго яшчэ міністар унутраных спраў мае выдаць падрабязныя правілы, у якіх будзе растлумачаны парадак атрыманьня дакумэнтаў, мэльдаваньня, рэгістрацыі і атрыманьня дазволу на часовае і сталае жыцьцё чужаземцаў у Польшчы.

Трэба толькі падчыркнуць у Законе характэрную, каб не сказаць мацней, рысу.—Арт. 1 Закону кажа, што „чужаземцам зьяўляецца кожны, хто ня мае польскага пашпарту“. Гэта значыць, што ўсе, хто жыве ў Польшчы па так званым „картам пабыту“ ці так зв. „карце азылю“ (пашпарт Лігі Народаў), хаця-бы яны і ня лічыліся грамадзянамі ніякай іншай дзяржавы — ўсе яны „чужаземцы“ і ня маюць ніякіх грамадзянскіх правоў у Польшчы

Ня маюць правоў, але затое маюць... абавязкі!—Бо-ж арт. 7 Закону аб ваеннай павіннасьці кажа ясна, што „ўсе асобы, якія жывуць на тэрыторыі Польшчы, за выняткам тых, якія зьяўляюцца грамадзянамі **іншай дзяржавы** (маюць на гэта доказ—пашпарт), абязаны адбываць ваенную павіннасьць“.

Гэта значыць: што да правоў, дык усе „картапабытчыкі“ ды „азылянты“—бяспраўныя чужаземцы; а што да абавязкаў, навет зьвязаных з ахвярай крыві і жыцьця,—дык усе яны „обыватэлі“ „Рэчыпаспалітай“... Гэткая—„падвойная бухгальтэрыя“!

### Як робяцца шпіёнскія афэры.

У гэтым самым нумару газэты мы падаем вестку аб „афэры“ ў Зах. Беларусі, дзе суд разглянуўшы справу, быў змушаны выпусьціць усіх „праступнікаў“ на волю з прычыны адсутнасьці доказаў віны. Тое самае бачым у Зах. Украіне. Яшчэ нядаўна буржуазная прэса трубіла аб „шпіёнскай афэры“ ў Галіцыі, а „Robotnik“ (№ 229) даносіць аб звальненьні 4-х арыштаваных і прэекце звальненьня яшчэ 6, зьвязаных з гэтай справай.

### Водгукі забойства вязьня.

Сьледзтва аб забойстве вязьня Вэнклера ў Львоўскім вастрозе зьліжаецца да канца. Арыштавана чацьвёра паліцыянтаў і мае быць рэарганізована адміністрацыя турмы.

Улада павінна была-б аддаць пад палявы суд вінавайцаў—і то ня толькі паліцыянтаў, але і камісара паліцыі, які загадаў замучыць вязьня!

### Дэманстрацыйная агульная забастоўка друкароў.

На 23 г. м. была назначана агульная аднадзёвая забастоўка варшаўскіх друкароў з мэтай падтрыманьня трываючай ужо даўгі час часьцёвай забастоўкі. Меліся прыняць у ёй учасьце і работнікі штодзенных газэт.

### Забастоўкі ў чыгункавых варштатах.

Нядаўна Міністэрства чыгунак выдала распараджэньне аб зьмяншэньні на 20% аплаты за датковую працу ў варштатах. Чыгункавыя ўлады на мясцох „перастараліся“ і... абнізілі аплату гэту на 60%! Работнікі адказалі на гэта забастоўкамі.

17 г. м. распачата забастоўка ў Львове і адначасна ў Кракаве.

### Перасьледаваньне левага крыла прафэсіянальных саюзаў.

У зьвязку з адозвай, выданай лявіцай праф. саюзаў да сяброў варшаўскай павятовай касы хворых,—паліцыя арыштавала 3-х сяброў лявіцы, працуючых у касе хворых.

### Безработныя ня маюць права дамагацца працы.

Справа крывавых выпадкаў у Стрыю, дзе паліцыя страляла ў таўпу дэманструючых безработных, мае разглядацца ў судзе.

Абвінавачаны—безработныя, якія не хацелі паміраць з голаду. Ад іх імені адзін з адвакатаў падаў просьбу да прэзыдэнта аб спыненьні працэсу.

Прэзыдэнт заявы ня прыняў пад увагу.

### Гінуць ад рукі паліцыі.

Як падае „Rzeczpospolita“ ў № 227, у месьце Гнезьне паміж работнікам Матушкевічам і паліцыянтам Габалай узьнялася спрэчка, у часе якой паліцыянт застрэліў работніка.

Ну дык што?—Ды нічога! Ходзіць паліцыянт вольны, толькі „завешоны“ ў урадаваньні... А калі-ж забітым аказаўся паліцыянт, дык гэны работнік пэўне-ж быў-бы не „за—“, а „повешоны“!

---

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

# Заграніцай.

### 25 гадоў істнаваньня прафэсіянальнага руху.

21-га г. м. мінула 25 гадоў ад першай міжнародавай канфэрэнцыі прафэсіянальных саюзаў у Копэнгадзе.

У зьвязку з гэтым прафэсіянальныя саюзы ўладзілі на цэлым сьвеце ад 19 да 26./IX. — Міжнародавы тыдзень агітацыі за ўступленьне ў саюзы. Сёньня шмат работнікаў выйшла з іх з прычыны здрады кіраўніцтва, якое знаходзіцца ў вельмі многіх выпадках у руках згодніцкіх партыяў. Аднэй з найважнейшых задач сучаснага работніцкага руху ёсьць ачышчэньне праф. саюзаў ад згодніцкага кіраўніцтва і пэратварэньне іх у запраўды клясавую арганізацыю.

### Правал трэцяе канфэрэнцыі ў справе разбраеньня на моры.

„Пацыфічная“ (міралюбівая) англійская буржуазія ізноў сарвала нарыхтаваную ўжо Амэрыкай трэцюю канфэрэнцыю ў справе зьмяншэньня збраеньняў на моры.

Як ведама, было на першай канфэрэнцыі ў Вашынгтоне пастаноўлена, што галоўныя марскія дзяржавы: Англія, Амэрыка і Японія — маюць давясьці свае флёты да такой лічбы, каб адносіны іх сілы былі прапарцыянальны лічбам 5:5:3.

Але-ж, як можна было прадбачыць, ані Англія, ані Японія, ня гледзячы на падпісы іх у Вашынгтоне, ня толькі ня думаюць зьмяншаць свае флёты, але наадварот, канкуруючы з Амэрыкай на моры, будуюць новыя караблі. І вось, англійскі ўрад толькі-што рашуча адмовіўся ад учасьця ў новай канфэрэнцыі, якая гэткім чынам не адбудзецца.

У выніку гэтага і „пацыфічная“ амэрыканская буржуазія, якая мае меншы флёт, чым дазваляе ёй Вашынгтонская канфэрэнцыя, пачне таксама будаваць новыя караблі!..

### Балтыцкія рэспублікі і ССРР.

Ня гледзячы на націск з боку Англіі і Польшчы, якія працівіліся заключэньню паміж балтыцкімі рэспублікамі — паасобку — мірнага дагавору (аб узаемным ненападаньні) з ССРР, — фінляндзкі і эстонскі ўрады згадзіліся вясьці паасобку перагаворы з Масквой аб гэткіх дагаворах.

### Проціфашыстаўскі пераварот у Грэцыі.

У ноч з 22 на 23 жніўня гарнізон у сталіцы Грэцыі, Афінах, пад камандай ген. Конділіса збунтаваўся проці дыктатуры Пангалёса. Да бунту далучыўся і грэцкі флёт. Усе міністры разам з Пангалёсам арыштаваны. Усе палітычныя дзеячы і ваенныя пасаджаныя ў вастрогі Пангалёсам, звольнены. Утвораны новы часовы ўрад.

### Фашыстычныя маніфэстацыі ў Празе.

18-га г. м. адбыліся на „Славянскім Востраве“ ў Празе дэманстрацыі фашыстаў. Падтрымовывалі яны ген. Гайду і пратэставалі проці ўраду. Іхны паход па вуліцах гораду паліцыя разагнала.

Цікаўна, што, як і ў нас, фашысты дамагаліся тутка „сільнай улады“, абвесьцілі сябе „беспартыйнымі“ і г. далей.

### Забастоўка англійскіх вуглякопаў прадоўжываецца.

19-га г. м. адбылася канфэрэнцыя прадстаўнікоў вуглякопаў і капіталістаў. Канфэрэнцыя не дала ніякіх рэзультатаў. У паведамленьні, абвешчаным саюзам вуглякопаў, гаворыцца, што прычынай разрыву зьяўляецца прагавітасьць уласьнікаў, якія дамагаюцца прадаўжэньня рабочага дня і зьмяншэньня заработнай платы.

Саюз пастанавіў зьвярнуцца да міжнародавага пралетарыяту з просьбай далейшага падтрыманьня забастоўкі, ды склікаць зьезд прадстаўнікоў прафэсіянальных саюзаў усяго сьвету з мэтай абгавораньня палажэньня і спосабаў далейшай барацьбы.

Дзе-ні-дзе штрэйкбрэхеры пачалі зрываць забастоўку. Гэтак, у аднэй капальні (графства Lancashire) таўпа заатакавала паліцыю, якая бароне штрэйкбрэхераў.

### Ксяндзы ў Мэксыцы ідуць на ўступкі.

Канфлікт між духавенствам і ўрадам канчаецца перамогай ураду. Ксяндзы згаджаюцца ўжо пайсьці на ўступкі і спорныя справы перадаюць на разгляд судоў і народнага кангрэсу.

Апошнюю сваю дэцызію скажуць яны пасьля атрыманьня інструкцыяў з Рыму.

---

# З жыцьця „Грамады“.

### НОВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ.

У ніжэйпаданых мяйсцовасьцях з'арганізаваліся новыя Гурткі і выбраны Камітэты Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады:

120. 25./VIII. у вёсцы **Пяшчанік**, Гарадоцкае гм., Беластоцкага пав.

121. 1./VII. у вёсцы **Юшкевічы**, Мядзелькае гм., Пастаўскага пав.

122. 24./VII. у маёнт. **Навасёлкі**, Індурскае гм., Горадзенскага пав.

123. 1./VIII. у вёсцы **Мольнічы**, Гарадэчанскае гм., Наваградзкага пав.

124. 5./VIII. у вёсцы **Малажаны**, Докшыцае гм., Дзісенскага пав.

125. 1./VIII. у вёсцы **Залукі**, Гарадоцкае гм., Беластоцкага пав.

126. 1./VIII. у вёсцы **Навасады**, Ражанскае гм., Косаўскага пав.

127. 31./VII. у вёсцы **Канюхі**, Індурскае гм., Горадзенскага пав.

128. 31./VII. у м-ку **Індуры**, Індурскае гм., Горадзенскага пав.

129. 1./VIII. у м-ку **Ліноўцы**, Лашскае гм., Горадзенскага пав.

130. 1./VIII. у вёсцы **Пятроўшчына**, Гарадоцкае гм., Маладэчанскага пав.

131. 2./VIII. у вёсцы **Дровашы**, Гарадоцкае гм., Маладэчанскага пав.

132. 1./VIII. у вёсцы **Бакшты**, Гарадоцкае гм., Маладэчанскага пав.

133. 3./VIII. у вёсцы **Навасёлкі**, Гарадоцкае гм., Маладэчанскага пав.

134. 3./VIII. у вёсцы **Хамічы**, Казлоўскае гм., Слонімскага пав.

135. 1./VIII. у вёсцы **Плышаніца**, Косаўскае гм., Косаўскага пав.

136. 1./VIII. у вёсцы **Квасавічы**, Косаўскае гм., Косаўскага пав.

137. 2./VIII. у вёсцы **Рацкевічы**, Косаўскае гм., Косаўскага пав.

138. 2./VIII. у вёсцы **Скураты**, Косаўскае гм., Косаўскага пав.

139. 2./VIII. у вёсцы **Макаршчына**, Пастаўскае гм., Пастаўскага пав.

140. 1./VIII. у вёсцы **Баброўня**, Скідэльскае гм., Горадзенскага пав.

141. 30./VII. у вёсцы **Альшанка**, Заблудаўскае гм., Беластоцкага пав.

142. 6./VIII. у вёсцы **Бухаўшчына**, Маладэчанскае гм., Вялейскага пав.

143. 31./VII. у вёсцы **Пузовічы**, Скідэльскае гм., Горадзенскага пав.

144. 2./VIII. у вёсцы **Козікі**, Борка-Гічыцкае гм., Косаўскага пав.

145. 2./VIII. у вёсцы **Серамовічы**, Воленскае гм., Бгранавіцкага пав.

146. 5./VIII. у вёсцы **Лыкавічы**, Ярэміцкае гм., Стаўпецкага пав.

147. 8./VIII. у вёсцы **Касьцені**, Чамерскае гм., Слонімскага пав.

148. 4./VIII. у вёсцы **Кайшоўкі**, Цырынскае гм., Наваградзкага пав.

149. 1./VIII. у вёсцы **Пагарэльцы**, Ярэміцкае гм., Стаўпецкага пав.

150. 6./VIII. у вёсцы **Краснае**, Карэліцкае гм., Наваградзкага пав.

151. 6./VIII. у вёсцы **Запольле**, Карэліцкае гм., Наваградзкага пав.

152. 2./VIII. у вёсцы **Нязбодзічы**, Ялоўскае гм., Ваўкавыскага пав.

153. 31./VII. у вёсцы **Магіляны**, Індурскае гм., Горадзенскага пав.

**Камітэты Гуртоў працуюць што-дня.**

### Павятовы зьезд Грамады ў Вялейцы.

У нядзелю 29 гэтага жніўня адбудзецца ў Вялейцы Павятовы Зьезд Белар. Сялян.-Работ. Грамады Вялейскага павету. Зьезд пачнецца ў 10 гадз. раніцы ў салі Вялейскае пажарнае стражы.

Парадак дня зьезду: 1) Справаздача паслоў Грамады аб працы ў Сойме і на правінцыі; 2) Справаздача з мейсц аб працы; 3) Арганізацыйныя справы; 4) Выбары Павятовага Камітэту і 5) Бягучыя справы.

На зьездзе абавязкава павінны быць: усе давераныя асобы, Камітэты Гурткоў Грамады і пажадана, каб былі ўсе сябры Грамады, маючыя ўжо на руках партыйныя білеты. Камітэты Гурткоў Грамады ў Вялейскім павеце абавязаны безадкладна апавясьціць усіх сваіх сяброў аб Зьездзе. Сябры зьезду павінны мець з сабой партыйныя білеты абавязкава і харчы на адзін дзень.

Кошты падарожы на зьезд пакрываюцца самімі ўчасьнікамі зьезду або Камітэтамі Гурткоў. **Толькі ў крайніх выпадках** могуць быць зьвернены выдаткі на праезд па чыгунцы сяброў Грамады з агульных сумаў Цэнтральнага Сэкрэтарыяту.

На зьездзе могуць быць прысутнымі і госьці па „запросінах“. Апошнія выдаюцца на зьездзе толькі па рэкамэндацыі сталых сяброў Грамады. Госьці рашаючага голасу на зьездзе ня маюць.

Ува ўсіх справах, датычачых Зьезду, зьвяртацца да мяйсцовага Камітэту Грамады ў Вялейцы — вуліца Слабодка № 40.

**Цантральны Сэкрэтарыят Грамады.**

### Павятовы зьезд Грамады ў Горадні адложаны.

З незалежных ад Цэнтральнага Сэкрэтарыяту і мясцовай арганізацыі „Грамады“ прычын — павятовы зьезд у Горадні, які меў адбыцца 22-га г. м. — адложаны на 2 тыдні (на 5-га верасьня).

### Павятовы зьезд „Грамады“ ў Паставах.

22-га г. м. адбыўся павятовы зьезд Беларускай Сялян.-Работ. Грамады у мястэчку Паставах. На зьезьдзе былі прысутны 105 сяброў і 96 гасьцей па запросінах. Ад Цэнтральнага Камітэту выступалі паслы Юры Сабалеўскі, Пётра Мятла і Сымон Рак-Міхайлоўскі. З тае прычыны, што рэзалюцыю першага зьезду ў Глыбокім мы падалі ў цэласьці, ды што ўсе яе пун-

